Цана асобнага нумару 2000 м. п.

# ПАДНЯТЫ СЬЦЯГ

## аднаднёўка

Вільня, Чацьвер, 16-га жніўня 1923 г.

## Яшчэ адзін голас...

У нашых газэтах ня раз інфармавалася аб выступленьнях Прусаў, Чэхаў і нават „саюзнае" францускае прэсы проці недапусьцімае ў конституцыйным гаспадарстве польскае палітыкі ў адносінах да нацыянальных меншасьцяў. Цяпер да гэтага згоднага пруска-чэска-францускага хору далучыўся голас англійскага парлямэнцкага дзеяча і дыплёмата, праф. Сімпсона, б. супэрарбітра ў палюбоўным судзе, што разсудзіў нядаўна спорку паміж Літвой і Латвіяй.

Праф. Сімпсон, як паказавае „Gazeta Warszawska", надрукаваў у найвялікшай англійскай газэце „Times" абшырнае пісьмо, „поўнае гвалтоўных напасьцяў на Польшчу".

„Кажа ён дaслоўна, што рада паслоў сваей пастановай у справе ўсходніх граніц Польшчы зацьвярдзіла рад нічым неапраўданых крокаў польскага захватніцтва. Робіць закід палякам, што, дзеля апалячаньня Вільні і ваколіц яе, палякі перад плебісцытам завялі сыстэму тэрору, абапёртага на забойствах і напасьцях. Вінаваціць Гюманса за староннасьць яго ў польска-літоўскай спорцы на карысьць француска-польскага пункту гледжаньня".

Мы ня маем аўтэнтычнага тэксту пісьма праф. Сімпсона і карыстаемся пераказам яго на страніцах эндэцкае газэты. Але і гэтага хваце, каб уявіць сабе настроі і пагляды кіраўнічых кругоў Англіі. Бо трэба ведаць, што голас праф. Сімпсона мае вялікую вагу і послух: праф. Сімпсон быў сябрам англійскае мірнае дэлегацыі на Вэрсальскім конгрэсе, вельмі цікавіўся ўжо тады беларуска-літоўскімі справамі, паважна знаёміўся з палажэньнем і імкненьнямі беларускага народу і належыць да найлепшых у Англіі знаўцаў нашага адраджэнскага руху.

Ня будзем уваходзіць у ацэнку заявы праф. Сімпсона: „крытыкаваць" яе—пад той час, як беларусы ў межах Польшчы пазбаўлены магчымасьці здаваленьня нават самых прымітыўных культурна-нацыянальных патрэб, — мог-бы хіба толькі пан міністар заграцічных спраў, Сэйда, — ведама, ex officio, або міністар асьветы, пан Гломбінскі, каторы ў сваёй прамове ў Сойме давёў цыфру беларускіх школ на звыш два міліёны беларусаў пад Польшчай ажно да... 44, дый то ў сваім выабражэньні, бо нават такой мізэрнай лічбай школ у роднай мове мы тут пахваліцца ня можам.

Зусім зразумела, што польскія паступовыя кругі пачалі голасна гаварыць аб тым, што думаюць пацііху і самі эндэкі: што аднымі галаслоўнымі запярэчаньнямі ня зьменіш пагдядаў пруськага, чэскага, францускага і англійскага грамадзянства па польскую палітыку ў нацыянальных справах. У намяры 24 „Н. С." быў падрукаваны голас газэты „Kurjer Polski", якая сур'ёзна стаўляе на парадку дня пытаньне аб нацыянальных меншасьцях.

Трэба спадзявацца, што падобным-жа да прыведзеных выступленьняў замежных прыяцеляў і ворагаў Польшчы **бічом** для польскага нацыяналізму павінна зьявіцца і тое, што робіцца на нашай зямлі за кардонам—у Усходняй Беларусі. Даволі побач з цыфрай беларускіх школ у Польшчы, ўдвая павялічанай міністрам Гломбінскім, паставіць цыфры беларускіх школ у Радавай Беларусі, дзе іх больш за 400 (значыць, у аднэй толькі Меншчыне!), ды нават лічбу іх, прыкладам, у Магілёўшчыне, якая не ўваходзіць у склад Радавае Беларусі, а знаходзіцца пад упраўленьнем Масквы. І гэтае параўнаваньне ніколі ня выйдзе на карысьць „свабоды" нацыянальных меншасьцяў у „найдэмакратычнейшай" з дэмакратычных рэспублік... А якія могуць быць для Польшчы вынікі такое розьніцы палажэньня беларусаў на Усходзе і Заходзе іх Бацькаўшчыны,— хай даскажуць самі палякі...

Ці толькі даскажуць? І ці жыцьцё здолее іх нечага навучыць перш, чым вынікі іх абмылак дадуць сябе пазнаць больш балюча, чым балючыя словы праф. Сімпсона?!

**Лаўрыновіч.**

## Дзьве сілы.

На прыкладзе сучаснай Нямеччыны найбольш выпукла абрысоўваецца змаганьне двух сіл: старай ад'жываючай сілы капіталізму, які перажывае пасьля сусьветнай вайны пэрыяд заняпаду і новай творчай сілы — працоўнай работніцка-сялянскай клясы, якая нясе з сабою перабудову самых падстаў сучаснага соцыяльнага ладу.

Буржуазія чуе, што грунт калышацца пад яе нагамі, што прабіла гадзіна канца яе панаваньня, і робіць апошнія высілкі хоць на кароткі час прадоўжыць сваё панаваньне, хватаючыся апошніх срэдстваў, якія знаходзяцца ў поўнай супярэчнасьці з тымі лёзунгамі, якія яна сама абвясьціла ў час змаганьня з ад'жыўшым фэодальным ладам і ў час свайго найбольшага росквіту, калі яна была запраўды творчай сілай.

Сусьветная вайна зруйнавала капіталістычную гаспадарку. Зьявілася патрэба шукаць новых шляхоў, тварэньня новых формаў сужыцьця. На палітычную арэну выступіла адзіная творчая ў сучасны мамэнт кляса—працоўных мазолістых рук.

У дзяржавах-пераможцах, як у Францыі, буржуазная кляса, апіраецца на штыкі перамогшай арміі і, затуманіўшы голавы шырокіх мас нацыяналістычнымі лёзунгамі і абяцанкамі лёгкай нажывы і адбудовы коштам пераможаных,—змагла ўтрымаць на нейкі час уладу ў сваіх руках.

У тых-жа краёх, дзе сыстэма капіталістычнага гаспадараваньня найбольш уцярпела ў часе вайны, самы капіталістычны лад збанкрутаваў у правядзеньні лёзунгаў абароны свайго роднага гнязда—правячыя буржуазныя сфэры страцілі веру ў шырокіх слаёх народу і былі зьмецены рэвалюцыяй, як у Расеі і Нямеччыне.

Улада перайшла ў рукі дробна-мяшчанства і дэклясованай інтэлігэнцыі, якія можа і шчыра думалі, што ўвядзеньнем у жыцьцё ў поўнай меры ідэальных дэмакратычных лёзунгаў **палітычнай** роўнасьці і свабоды, ня кратаючы **эканамічных** падстаў капіталістычнага ладу, змогуць шляхам эволюцыі, рэвізыянізму вывясьці народы з капіталістычнага пекла і ўвясьці ў соцыялістычны рай. Кіраўніцтва перайшло ў рукі соцыяль-угадовых партыяў. Такім чынам паўсталі ў Расеі—Керэншчына, у Нямеччыне Шэйдэманаўшчына, ў Польшчы—Марачэўшчына. І ўсюды мы бачым поўны правал гэтай палітыкі. У той час, калі ў Расеі працоўныя клясы, парваўшы з мягкацелым дэмакратызмам соцыяль-угоды, пашлі шляхам запраўднага рэволюцыйнага змаганьня і пасьля крывавай барацьбы з апошнімі высілкамі буржуазіі, ўмацавалі сваю ўладу, творачы Саюз Радавых нацыянальных рэспублік, і пераходзяць да мірнага будаваньня новага жыцьця на новых падставах,—падзеі ў Нямеччыне і Польшчы пашлі іншым шляхам. Соцыяль-угадоўства не змагло забясьпечыць запраўднага панаваньня працоўных. Лавіруючы паміж супярэчнасьцю інтарэсаў працоўных і буржуазіі, не магло задаволіць ні тых, ні другіх, траціла веру і аўтарытэт, ні на шаг не прыбліжаючы мамэнту выхаду з ненармальных варункаў паваеннага жыцьця. Улада паволі пераходзіла з рук Шэйдэманаў—Марачэўскіх у рукі Куно і Вітосаў—Глонбінскіх, у рукі прадстаўнікоў заможных клясаў. Як, бачым аналёгія паміж Польшчай і Нямеччынай поўная, розьніца толькі ў тэмпе разьвіцьця гэтага працэсу, які знаходзіцца ў залежнасьці ад некатор. пабочных прычын.

Спроба ўрадаваньня дробна-мяшчанскага соцыяль-угадоўства ўва ўсіх гэтых краёх кончылася поўнай няўдачай. Жыцьцё вымагае будаваньня запраўды новых формаў, а ня латаньня і рэмантаваньня згніўшай і гатовай заваліцца будыніны капіталістычнага ладу.

У Нямеччыне гістарычныя падзеі прыйшлі да свайго лёгічнага канца і хутка мае разыграцца аканчальная барацьба паміж дзьвюма сіламі—ад'жыўшым капіталізмам і тварцом новай культуры—работнікам і селянінам.

Што Нямеччына перажывае сур'ёзны крызыс—гэта ясна для кожнага; зьмяшчаемыя ў аддзеле інфармацыяў весткі гавораць самі за сябе. Паглядзім, што прывяло Нямеччыну да сучаснага палажэньня.

Паступова пераходзячы ад Шэйдэмана да Штынэса, Нямеччына ў гаспадарчым жыцьці ішла звычайным шляхам вяліка-капіталістычнай рэакцыі—ўскладаньня ўсяго цяжару ваенных коштаў і коштаў адбудовы капіталістычнай гаспадаркі на плечы працоўных масаў. Гэты мэтод гаспадараваньня агульны для ўсіх дзяржаў сучаснай Эўропы, не выключаючы і Польшчы, і калі гэты мэтод толькі ў Нямеччыне вытварыў **ужо цяпер** рэволюцыйную сытуацыю, дык прычынай гэтага ёсьць **вялізарны цяжар, узложаны на Нямеччыну Вэрсальскім трактатам і імпэрыялістычная палітыка Францыі, выявіўшаяся ў окупацыі Рурскага басэйну.**

Вэрсальскі трактат застаўляе немцаў у працягу многіх гадоў аддаваць пераможцам вялікую частку вырабу сваей працы. Пры соцыялістычным урадзе гэты цяжар разложаны быў-бы на ўсіх раўнамерна. Але пры сучасным ладзе прадукты вытварчасьці концэнтруюцца ў руках капіталістаў, якія дзякуючы сваёй эканамічнай сіле маюць магчымасьць заўсёды ўхіліцца ад гэтых сплат і пералажыць іх на плечы працоўных, асабліва пасьля пераходу ўлады з рук соцыяль-угоды і дробнага мяшчанства ў рукі стаўленіка вялікіх прамыслоўцаў Куно. Такім чынам працоўным клясам прыходзіцца нясьці двайны цяжар, што бязумоўна абвастрыла сытуацыю.

Калі прыняць пад увагу, што капіталізм у сучаснай фазе свайго разьвіцьця перастаў ужо быць клясай творчай, а выключна вызыскуючай, знаходзячайся ў пэрыядзе упадку, дык зусім зразумела што палажэньне сялянства, работнікаў і дробна-мяшчанства ў Нямеччыне, дзе перад вайной панаваў адносны дабрабыт, цяпер зьяўляецца найбольш нэндзным з пункту гледжаньня забясьпячэньня найважнейшых жыцьцёвых патрэбаў.

Францускі імпэрыялізм мае на мэце ня толькі выціснуць з Нямеччыны мільярды і пашырыць свае эканамічныя ўплывы, ён мае яшчэ замер умацаваньня свае ваеннае сілы праз разьдзел нацыянальна-цэлай Нямеччыны, падтрымоўваючы надрэйнскі і баварскі сэпаратызм. Гэта выклікала сярод немцаў імкненьне да нацыянальнае самаабароны ў форме **пасыўнага спраціву і сабатажу,** што зараз-жа пастараліся выкарыстаць капіталісты, якія хацелі і з гэтай нацыянальнай нядолі цягнуць карысьці, аканчальна закабаліць работнікаў, прызываючы да „грамадзкай згоды" з часоў вялікай вайны, пушчаючы ў ход нацыяналістычную агітацыю, заахвочваючы да ваеннага рэваншу, кідаючы мільярды на падтрыманьне пасыўнага спраціву.

Але, як выявілася, гэтыя сотні мільярдаў, прызначаныя быццам на падтрыманьне работнікаў у Рурскім басэйне перайшлі ў кішаню вялікіх прамыслоўцаў і банкаў. Уся акцыя не прынясла ніякіх дадатніх вынікаў, гаспадарчая разруха прымае катастрофальныя разьмеры. Магчымасьць адарваньня найболей прамысловых районаў Нямеччыны ў форме „незалежнай" Надрэніі становіцца пытаньнем бліжэйшах дзён. Усё гэта робіць падставу істнаваньня сучаснага дзяржаўнага ладу вельмі зыбкай.

Паход проціў яго ідзе справа і зьлева. Тайныя монархічныя арганізацыі, ізоляваныя да гэтага часу ў абшарніцка - афіцэрска-студэнцкіх кругох, знаходзяць послух сярод дробна-мяшчанства і **становяцца фашызмам.** Фашыстоўскія ідэі моцна пашыраюцца і фашысты хутка дапялі-б улады, каб не наткнуліся на **моцна арганізованыя пролетарскія сілы.**

Сілы камуністычнай партыі растуць яшчэ больш, чым сілы фашыстаў. У Надрэніі, Руры і Бэрліне камуністы на выбарах у зьезд профсаюзаў адтрымоўваюць вялізарную большасьць. Ува ўсей Нямеччыне здабываюць 1/3 мандатаў. Саксонія і Франкфурт на Майне апанованы імі. У самой соцыялістычнай партыі намячаюцца новыя цячэньні; левае крыло партыі пад кіраўніцтвам Леві выстаўляе дамаганьні: опызыцыя адносна Куно, неўваход у коаліцыю з буржуазнымі партыямі, паскольку гэта ня дасьць перавагі соцыялістам, супрацоўніцтва з камуністамі ў справах

запраўды ясны адказ“...—„Нямечаньне і яшчэ раз — нямечаньне ўсяго, што польскае“...

Але гэтая іронія робіцца двойчы забойчай для саміх палякоў, якія як дасьціпныя але глухаватыя на „блізкае вуха“, паны з „Kur. Polsk.“ цытуюць далёкія замежныя газэты—бэрлінскія—і ня цытуюць бліжэйшых да сябе, ў Польшчы,—хаця-б беларускіх.

Але і тут яшчэ не канец проста баечнаму падабенству...

Нават прускі старшыня міністраў Бауэр, каб зусім дарабіцца, дапасавацца да гэтага тыпу **„нармальнага“** прэм'ера сучаснага гатунку „дэмакратычных рэспублік“ Вэрсальскай Эўропы, гаварыў нават... аб „добрай волі“ нацыянальных меншасьцяў,—нешта падобнае—толькі трохі разумнейшае—да таго, што казаў латвійскаму корэспондэнту польскі прэм'ер пан Вітос.

Дапраўды—як у байцы'..

Але і на тым не канец падобнасьці!

Польскія паслы ў Прускім Сойме заявілі, што амаль што ня зусім **страцілі веру у „добрую волю“ нямэцкай большасьці**... і што, калі палякі ў Прусах і ў далейшым працягу не адтрымаюць сваіх правоў, дых застанецца ім толькі... **„распачаць барацьбу адчаю“**.

Праўда, паслы ясна гавораць, што барацьба гэтая вясьціся будзе зусім легальнымі срдэствамі, ня будзе аб'яўлена перад парой, але, „na wypadek niepowodzenia“ яны **„не пабаяцца геласна падняць свае жальбы перад цэлым сьветам“** і не затрымаюцца навет перад... агульнай школьнай забастоўкай...

Здаецца толькі некалькі дзен, таму беларускі як пасол Тарашкевіч у Варшаве паўтарыў амаль што не даслоўна тое самае, што казаў польскі пасол Бачэўскі у Бэрліне... Ало і тутака яшчэ ня усё...

Газэты нацыянальных меншасьцяў у Прусах пішуць, што з прычыны уціску „паміж меншасьцяў вытварылася „zacieśnienie takich więzów, jakich nicht zerwać nie potrafi“... „Więzów“ якія, дададзім мы—па сваім паходжаньні, па моцнасьці сваей зусім падобны да.,. „Блёку нацыянальных меншасьцяу“ у Польшчы...

Карэктныя паслы-палякі ў Прускім Сойме тонка гаварылі, што „будучы лёяльнымі грамадзянамі Прус, яны ня могуць рабіць уплыву на чужыя ўрады“... і—будуць моцна засмучаны, калі, напрыклад. Польшча, на гэтую палітыку Прус да палякоў адкажа закрыцьцем нямецкіх школаў у Польшчы..,

Добры прыклад для беларускіх паслоў, якія пастаянна чуюць закіды аб тым, што яны азіраюцца на... чужыя ўрады“...

Наканец прывядзём яшчэ, як моцна хваліць польская газэта адвагу і лёяльнасьць польскіх паслоў, у Прусах...

„Пасол Бачэўскі гаварыў, як лёяльны грамадзянін **у імя дабра Нямеччыны**“... „Дамаганьня прызнаньня сьвятых нацыянальных правоў польскія грамадзяне Прус не зракуцца ніколі“!...

„Ад ураду „Свабоднага Прускага гаспадарства“ („Freistaat!?“) тутэйшыя палякі чакаюць, каб ён унікаў памылак і грахоў прошлага і адапхнуў ад сябе сык сьляпой ненавісьці,—ўзбудзіў даверые да прускай дэмакратыі“.

„Прускай дэмакратыі!“... нешта як-бы неяк нялоўка гучыць на прадваеннае вуха...—амаль што не таксама, як выраз „польская дэмакратыя“ на пасьляваеннае... Ці можна верыць наагул у гэтую паваенную „дэмакратыю“ Вэрсальскай Эўропы, ў часнасьці, — ў прускую ці ў польскую?!

„Урад заўсёды ёсьць адбіцьцем Сойму“... „гавора“ польскі „Dziennik Berliński“.

А. Сойм адбіцьцем—грамадзянства, дадамо і мы да гэтага; а грамадзянства—адбіцьцем агульнага „духу часу“...

„Дух“ гэты — ад вайны, ды ад Вэрсальскага „міру“, ды Рурскага вераду ідзе надта цяжкі...

Адтуль цягне праз усю Эуропу гэты **„тлетворны дух“** палітыкі і этыкі мурынскай, і, чым меней маральна дазрэў народ да „сувэрэннасьці“, тым мацней гэты „дух“ яго растлевае...

Праўдзівага добрага бізуна на гэты „бізун“ сучаснай людзкасьці дагэтуль яшчэ ў Эўропе няма...

Агідны камізм паказанай намі вышэй „дэмакратычнай“ міжнароднай „узаемнасьці“—толькі слабы паліатыў...

Мова, сьпераду гледзячыся ў ветліва пастаўленыя добрым сўседам люстры , а з-заду сьцёбаны тым-жа суседам, кожны „murzyn“ — хай урэшце хоць трохі захоча ня толькі насіць Эўрапэйскі цыліндар, але і запраўды быць эўропэйцам...

**Суліма.**

# Зямельная рэформа у Чэхаславакіі.

Калі ў 1918 годзе цяперашняя Чэхаславацкая Рэспубліка паўстала да новага, незалежнага, самастойнага жыцьця, дык больш як 1/3 яе абшару знаходзілася ў руках вялікай зямельнай уласнасьці.

Калі 16-га сакавіка 1919 г. асталася агалошана заборная устава, па якой усе маёнткі, маючыя больш як 250 гэкт. зямлі, падлягаюць забору і могуць быць выўлашчаны, і калі была праведзена рэгістрацыя тых маёнткаў, дык аказалася, што забраная зямельная ўласнасьць выносіць 4,732.264 гэкт. на 14.048.328 гэкт. паверхнасьці цэлай Рэспублікі або 33.7% усяго яе абшару.

Дзеля таго, што ў працягу 1919 і 1920 году законадаўства аб аграрнай рэформе ня было закончана і правядзеньня яе не магчыма было распачаць, урад заняўся падгатоўчай працай і тымчасовым заспакоіваньнем найбяднейшых сельскіх гаспадароў.

З тэй прычыны у 1919 г. прыступлена да выкупу доўгатрывалых дробных зямельных уладаньняў для ўжытку іх арэндатараў, у рэзультаце чаго да 28 лютага 1921 г. было выкуплена ў Чэхіі 34.751 гэк., а ў Маравах і на Шлёнску 9779 гэк. зямлі

Адначасна з гэтым урад правёў у 1920 г. прыдзел зямлі да прымусовай арэнды, абнімаючы каля 10% цэлага забранага абшару; праз гэту акцыю тымчасам заспакоена больш 300.000 сямействаў найменьшых сельскіх гаспадароў і асталося стабілізавана ўнутранае палажэньне краю.

У пачатку 1921 г, прыступлена да прыдзелу ад забраных аб'ектаў зямлі на мэты адбудовы.

Тымчасам вясной 1921 г. усе законадаўствы аб аграрнай рэформе асталіся закончанымі і ўрад мог прыступіць да працы згодна пляну, які быў агалошаны ў чэрвені 1921 г., у першай парэ дзейнасьці мае быць узята, апрача маёнткаў у абрубе Вялікай Прагі, 255.707 гэк. земляробнай зямлі і 312.105 другой. Прастор гэты творыць 300 маёнткаў, належачых да 200 упасьнікаў.

Пры устанаўленьні чаргі для прыняцьця ўрадам да парцэляцыі асобных аб'ектаў прадбачана, каб у першую чаргу былі ўзяты:

1) Маёнткі пакінутыя (на Славаччыне і Падкарпацкай Русі), нядбала загаспадараваныя, і заўсёды арэндаваныя, не зважаючы на разьмер забранага абшару іх уласьніка;

2) У Чэхаў, на Маравах, на Шлёнску, на Славаччыне і Падкарпацкай Русі, якіх уласьнікі маюць у Чэхаславакіі больш як 5.000 гэк. зямлі;

3) аб'екты, якія ўласьнікі ў апошніх гадох хацелі іх прадаць, і маёнткі, купленыя у часе вайны з мэтай укрыцьця ваеннага заработку;

4) аб'екты, на якіх не гаспадарыць сам уласьнік;

5) у выпадку патрэбы няцерпячай адкладу, і там дзе, таго вымагае інтэрас дзяржавы ўсе другія забраныя маёнткі, без пагляду на іх абшар.

Выконаваючы гэту праграму, ўрад зварачавае ўвагу на тое каб:

а) ня былі пашкоджаны важныя ўзорныя—маёнтковыя ўстановы;

б) былі захованы забыткі мастацтва і хараство прыроды;

в) былі падтрыманы інтарэсы сельска-гаспадарчае вырабаткі і залежная ад іх прамысловасьць;

г) праз замену забранай зямлі за незабраную можна было адтрымаць для парцэляцыі грунту і на мясцох, дзе зямлі забранай замала або зусім няма.

Прытрымліваючыся усіх успомненых варункаў распарцэлёвана да канца 1922 г. у Чэхаў 47 маёнткаў абшарам 45.812 гэк. зямлі, а на Маравах і Шлёнску 14 маёнткаў абшарам 13.255 гэк.

З гэтага ліку распарцэлёвана дробным гаспадаром у Чэхах 26.194 гэк. а на Маравах і Шлёнску 5.924 гэк. Пры фальварачных будынках для іх выкарыстаньня астаўлена ў Чэхах 10.397 гэк., на Маравах і Шлёнску 2.448 гэк., астальную забраную зямлю твораць лясы, сажалкі і другія грунты, якія астаўлены на ўласнасьць гаспадарства. Згодна апошніх інфармацыяў, на Славаччыне падгатаваўчую працу паднята на 26 аб'ектах абшарам 19 000 маргоў, якія назначаны на каналізацыю. На 8.000 маргах каланізацыя ўжо закончана і заложана 13 калёніяў, у якіх пасаджана 438 сямействаў.

Уся тады праца парцэляцыйная асталася да канца 1922 г. закончана ў усей Рэспубліцы на 77.468 гэкт. зямлі.

Гаспадарскі Земскі Ўрад маець цяпер у розных мясцох усей рэспублікі 76 камісарыятаў, у якіх працуе больш як 200 працаўнікоў.

**А. Вітт.**

# Беларускі тэатр.

У той час, як з Савецкай Беларусі даходзяць весткі аб шырокім разьвіцьці беларускай культурнай работы наогул, а беларускага тэатру асабліва, калі цесна згрупаваная, сыграўшаяся трупа ставіць новыя, добра абстаўленыя і старанна вырэжысэраваныя п'есы, калі паяўляюцца новыя літэратурныя сілы, якія даюць тэатру цэнныя творы, калі падгатаўляецца новы кадр працаўнікоў беларускае сцэны,—у нас, у Заходняй Беларусі, як наогул справы культурнай работы, так і работа тэатральная апынуліся ў поўным заняпадзе.

Дагэтуль у Вільні не ўдалося згуртаваць тэатральнай трупы, дагэтуль беларуская сцэна ня мае пастаяннага прыпынку. беларускія спэктаклі становяцца ўсё больш рэдкім зьявішчам, а з боку мастацкага ўсё меней здаволіваючымі.

Праўда, калісь у беларускім Клюбе (Белар. Драм. Гурток, Белар. Грам. Сабраньне) была малюсенькая сцэнка, якая не адказвала элемэнтарным вымаганьням тэару, на ёй ставіліся бяз ніякай літэратурнай вартасьці аднаактоўкі, слаба прыгатаваныя, колючыя вуха русіцызмамі. Аднак беларуская публіка, ня маючы лепшага тэатру, прыходзіла на спэктаклі ў немалым ліку. Але цяпер няма ўжо ані гэтай трупы, ані гэтай сцэны.

Былі спробы наладзіць аб'ездны тэатр па провінцыі. Група моладзі езьдзіла ў Маладэчна і Вялейку з „Птушкай шчасьця“ і „Лес шуміць“, пасьля, ў восені 1922 г., езьдзіў беларускі тэатр з „Няскончанай драмай“ ды інш. п'есамі. Ведама, дазвол ад улады даставаць было вельмі трудна, але ўсё-ж такі ўдавалася, і спэктаклі на провінцыі карысталіся вялізным пасьпехам у публікі. Але недахват ідэйнасьці, патрэбнай, каб вытрывала пераносіць усе нявыгоды вандроўкі і труднасьці адтрыманьня дазволу ў няпрыхільна настроенай улады, разьбівалі гэтыя тэатральн. імпрэзы.

Заснавалася т-ва п. н. „Драматычная майстроўня“, якое спачатку збудзіла ў грамадзянстве надзеі, што тэатральная справа ў Вільні скранецца з мёртвага пункту. На месцы провізарычна пастроенай вучнямі беларускай гімназіі сцэнкі, „Драм. Майстроўня“ пабудавала сцэну, на якой сьмела можна было-б ставіць больш лёгкія з дэкоратыўнага боку рэчы. На сцэне былі ўстроены верхнія і ніжнія рампы, якія маглі даць даволі асьвятленьня. Была сшыта вельмі прыгожая заслона. Салю вычысьцілі і памалявалі; паставілі печы. Але на гэтым праца й затрымалася. Бо гэтыя спэктаклі, які мы бачылі на новай сцэне, як напр. пераклад з украінск. „Сатана ў бочцы“, або „Цётка нашкодзіла“ (невядомага аўтара) толькі пашкодзілі новаму таварыству ў вачох грамадзянства. У канцы канцоў і гэтыя спэктаклі спыніліся, і толькі беларускія матурысты, згодна з сваей традыцыяй, на свой актавы вечар ставілі спэктакль.

Вось кароткі агляд таго, што было ў апошнія 2—3 гады. Бязумоўна, галоўнай прычынай заняпаду нашай тэатральнай работы зьяўляюцца агульныя палітычныя варункі. Калі польскія тэатры карыстаюцца багатай урадовай падмогай, беларускі тэатр апрача ўсялякіх труднасьцяў, стаўляных з боку мясцовых старастаў, нічога больш ня бачыў. Агульны ўпадак духу выклікаў апатыю і ў тэатральнай рабоце. Цяжкія эканамічныя ўмовы жыцьця, даражыня, пагоня за куском штодзеннага хлеба не пазваляюць тэатральным працаўнікам аддаць увесь свой час сцэне. Беларускія ўстановы, маючы шмат клопатаў у змаганьні за сваё істнаваньне, ня могуць матар'яльна падтрымліваць беларускі тэатр.

Але трэба шукаць выхаду з цяперашняга палажэньня, пара ўжо скрануць справу з гэтага пункту. Выхад ёсьць. Дзеля гэтага патрэбна сьмелая ініцыятыва і арганізатарская рука.

Мы памятаем, як у часы нямецкай окупацыі, у часы таксама палітычнай няволі і страшэнных эканамічных варункаў удалося сарганізаваць у Вільні драматычны гурток, які што-тыдзень ставіў спэктаклі, з каторых шмат азначалася не малой мастацкай вартасьцю. Беларускі тэатр здабыў для сабе пастаянны контынгэнс публікі. А цяпер мы пераконаны, што ўдалыя спэктаклі маглі-б прыцягнуць шмат болей публікі, ад якой даход ня толькі аплаціў-бы усе тэатральныя расходы, але мог-бы даць гонорар тэатральным працаўнікам. Але, паўтараем, з аднэй умовай: каб гэтыя спэктаклі мелі нейкую мастацкую вартасьць, а ня былі такія, якімі няраз ужо частавалі нашу публіку, адбіваючы ў яе ўсялякую ахвоту да роднага тэатру.

Справа з тэатральным пэрсоналем цяпер ужо куды лепшая, чымся калісь. Цяпер маем шмат інтэлігэнтнай моладзі, якой можна-бы стварыць нешта накшталт студыі і пры старанным вышкаленьні даць добра апрацованыя спэктаклі.

Калі „Драматычная Майстроўня“ аказалася няздольнай выпаўніць гэткае заданьне, трэба, каб людзі, якім ляжыць на сэрцы справа нашага мастацтва, заняліся гэтым і распачалі раз ужо пляновую арганізованую, пастаянную работу.

**П. Л.**

# Палітычныя падзеі.

## ПОЛЬШЧА.

У апошнія часы адбыліся нарады прадстаўнікоў Польскай Соцыялістычнай Партыі, Нямецкай Соцыял-дэмакратычнай Партыі ў Польшчы, Агульна-Жыдоўскага Работніцкага Саюзу ў Польшчы „Бунд“ і Нямецкай Партыі Працы, выступаючай і ад імя с.-д. нямецкіх б. прускага забору.

Прадстаўнікі гэтых партыяў згодна сьцьвердзілі, што узмогшаяся абшарніцка-капіталістычная рэакцыя вядзе з неаслабнай сілай свой наступ, скіраваны да павялічаньня эканамічнага вызыску работніцкай клясы, пазбаўленьня яе палітычных і соцыяльных здабыткаў, а няпэўнасьць улады, якую яна—буржуазія — здабыла шляхам парлямэнтарным, заставляе яе не выракацца і фашыстоўскіх мэтодаў барацьбы.

Асабліва нацыяналістычная пропаганда завастрыла да нябывалага напружаньня нацыянальныя адносіны, захопліваючы шырокія слаі грамадзянства, стварае атмосфэру, якая аблягчае рэакцыі дапяць сваіх замераў. З другога боку гэтая пропаганда будзіць і ўзмацоўвае нацыяналістычныя настроі сярод нацыянальных меншасьцяў, пратвараючы Рэспубліку ў арэну няўпынных нацыянальных змаганьняў.

У гэтых варунках абавязкам работнікай клясы усей Польшчы ёсьць энэргічна выступіць у абароне дэмакратычных свабодаў, у абароне сваіх правоў, проціў фашызму і рэакцыі, проціў нацыянальнаму уціску і ўсялякім праявам нацыяналізму, праціваставляючы палітыцы рэакцыйнага лягеру і капіталу прынцып міжнароднай солідарнасьці ўсіх працоўных.

Прадстаўнікі памянёных партыяў пастанавілі падтрымліваць цесную сувязь і згодна працаваць у барацьбе паасобных арганізацыяў соцыялістычнага пролетарыяту.

---

Дарагоўля ў Польшчы расьце ўсё хутчэйшым тэмпам. За апошнія дні цэны на тавары падняліся ад 40 да 400%. Як бачым Польшча ніяк ня хоча заставацца ў гэтым выпадку ад Нямеччыны.

---

Хвасты перад магазынамі прадуктаў першай патрэбы растуць, як за часаў нямецкай окупацыі. Здараюцца, што слабыя здароўем паміраюць у часе доўгага стаяньня ў гэтых хвастох. З прычыны голаду ўсё часьцей здараюцца выпадкі самагубства.

---

„Kurjer Polski„ паведамляе, што ў хуткім часе наступяць важныя перамены ў кабінэце Вітоса. Перадусім выйдуць у адстаўку: міністар жал. дарог п. Карлінскі і міністар публічных работаў — Лапушанскі; далей трэба спадзявацца пераменаў у міністэрствах

—гэта рэч інспэктара ў Саколцы, каторы да нас добра, калі раз ў год заглядвае. Але вучаць так, што дзіця праз тры гады ня знае ніводнай літары, як ў майго суседа.

Есьць тут у нас вучыцель у вёсцы Хадароўцы, што добра мо гандлюе коньмі, але вучыць блага. Некалька вёсак падалі просьбу, каб гэтага „пана“ забралі ад іх, але ці з гэтага што выйдзе?—Ен з Галіцыі.

Падаткаў няшмат, дык толькі бяда, што іх прыходзіцца плаціць што два—тры тыдні. Панасылалі з валасьцеў такія мудрыя паперы дзеля вызначэньня даходнасьці гаспадаркі, што няма каму іх выпісаваці, нат у валасьці не разумеюць.

Нашае мястэчка лічыць каля 4-х тысяч жыхароў—палова жыдоў. Яны маюць добрую школу, дзе вучаць пажыдоўску і маюць тры школьныя будынкі.

Каталікі-ж ня маюць свайго будынку школьнага, школа гэтак на 20—30 дзяцей месьціца на лаўцы ў касьцельным доме, скуль яе наш ксёндз А. Гайлевіч нядаўна хацеў выкінуці. А ён школ дужа ня любіць. Мейская Рада тры ці 4 гады таму назад запісала ў пратаколе, што мае быці школа ў Сухаволі, але мусіць чацьвёртае пакаленьне прыжджэ зьдзейсьненьня гэнай пастановы. А павет гэтым мала рупіцца, пэўна таму, што да Сухаволі 35 вёрстаў дрэннай дарогі.

Забыўся,—цяпер пры „нарадовым жондзе“, чыста-польскім прыйшла новая бяда, дарагоўля. Чуў, што сяляне ня ў сілах абуцца на зіму ў боты, бо мой сусед без канца робіць „клемпы“, нават альха падаражэла. Ці гэта мае быць нарадовы польскі абутак?

**Сухаволяц.**

# Допісы.

## Беларусы у Амэрыцы.

### Аб беларускім пікніку на 19 жніўня.

Першы і апошні ў летнім сэзоне беларускі пікнік, ладжаны Беларускім Камітэтам на карысьць палітычных змагароў Заходняй Беларусі, зацікавіў ня толькі беларускае грамадзянства, але таксама украінскае, літоўскае і іншае. На гэты дзень братнія беларусам народы ня будуць арганізаваць сваіх прадпрыемстваў, а ўсе зьявяцца на беларускі пікнік.

У канцэртнай праграме выступяць артысты: Уладзімірава, Гадувоў і Вараб'еў. Прамоўцамі будуць. А. Змагар—Беларусь, адвакат К. Гугіс—Літва, Др. Грыневецкі-Украіна.

**П. Б.**

# БІБЛІЯГРАФІЯ.

**Янка Купала** Шляхам жыцьця. Другое папраўленае выданьне. Выдавецтва Б. А. Клецкіна Вільня 1923 г.

Другое выданьне вялікага зборніку вершаў Я. Купалы „Шляхам Жыцьця“ аздоблена самым апошнім фотографічным патрэтам аўтара. Кніжка зьмяшчае аж 270 страніц.

Выданьне гэтае праўда што папраўлена, але можна лічыць, што толькі з боку орфографічнага, бо падчас першага выданьня ня было яшчэ ў нас сыстэматычнае граматыкі. Нажаль і орфографія другога выданьня выглядае не саўсім па Тарашкевічу, ёсьць некаторыя карэктарскія недарэчнасьці. Але дзе іх няма ў нашых выданьнях, асабліва розных эмігранцкіх! Тут у Вільні яшчэ з бядою напалову.

Што найгорай, дык гэта тое, што нават найлепшыя з раньніх твораў нашага вялікага песьняра часта-густа псуюцца грубымі полёнізмамі, якія саўсім непапраўлены аўтарам у новым выданьні. Напр. у вершы „Чалавеку“ (35 стр.) спатыкаем чысьцейшыя полёнізмы:

„Ты і ў **прышласьць** рад глянуць заранья“...

Слова „przyszłość“ абсалютна польскае і адпавядае нашаму—„будучына“. Альбо ў тым-жа вершы:

...Гэтых сіл не пазнаць да магілы
Табе **думнаму** цару зямлі.

„Думны“—пабеларуску—„горды“.

І полёнізм гэты ў даным месцы заміняецца якнайлягчэй.

Часамі няшкодзіла-б замяніць і кроплю русіцызмаў, як напр.:

„Мой дом—прывольле зьвёзднай далі“...

А чаму ня „зорнай далі“?

Усё гэта дробныя балячкі і дзьве-тры іх паказваюць, як слаба папраўлялася другое выданьне „Шляхам Жыцьця“.

Чыстата мовы зьяўляецца першай азнакай яе самастойнасьці і той прогрэс, які зрабіла наша мова ад часу першага выданьня „Ш. Ж.“. трэ'было-б шаноўнаму аўтору ўзяць пад увагу. Пазычаць словы ў суседзяў-славян хоць-бы навет і для рыфмоўкі ніколі нельга віртуозам нашае мовы—поэтам, а ў „Шл. Жыц.“ вельмі часта спатыкаем польск. слова „балесьне“, як рыфму да слова „песьня“, ці польскае „заглада“ (сьмерць“) для рыфмоўкі з „прынадай“, „здрадай“. Ня вытрымлівае крытыкі таксама і ўжываньне гэткіх словаў, як „жычэньне“, „жычу“, „млечны“, „айчызна“, „льсьняць“, альбо ўжываньне небеларускіх акцэнтаў, як у загалоўку аднаго вершу—„У ночным царстве“.

Пабеларуску „о“ заўсёды пад націскам. А слова „начны“, (а ня „ночны“) у творным і месным склонах будзе—„начным“. Ды ўсіх полёнізмаў у паважным томе вершаў гэтак хутка і не пералічыць, а пачысьціць іх хоць і не саўсім лёгкая, але ўсё-ж такі магчымая рэч.

**К. М.**

# Беларускі музэй.

Цікавы, дужа цікавы Беларускі Музэй імя І. Луцкевіча ў Вільні. У ім хаваюцца вялікія вартасьці для навукі, для гісторыка, для поэта. Тут кожная рэч, узятая з Беларусі, мае сваю цану, бо яна знойдзена тут, вось на гэтых палёх, на гэтых далінах, вось у гэтых аграмадных волатах-асілках, курганох! Кожную мясцовасьць ведаеш, нираз там можа й быў, і ўваскрасае ў памяці гэты жывы від; міжвольна гэтыя рэчы, што знойдзены й захоўваюцца ў Музэі, прымушаюць бязьмерна любіць тую мясцовасьць, тыя лясы-бары, вазёры, іншарыны, любіць усю наогул Беларусь, увесь вялікі сярмяжны Беларускі Народ!

Вее нечым бязьмежна дарагім, сваім родным, калі глядзіш на якую-небудзь рэч. Здаецца п'еш келіх старадаўняга віна, чытаеш першую старонку кнігі мілай гісторыі нашага краю.

Вы, інтэлігэнты вёскі, зьвярнеце ўвагу на цэркаўкі-капліцы, што ў некаторых мясцох разваліліся ад старасьці, прыгледзьцеся да яе ўбраньня, да харугваў, да абразоў ды рыз, што цяпер ня ўжываюць папы, і да тых рэчаў царкоўных, што аджылі сягоньня свой век. Зьвярнеце ўвагу на чарнакніжнікаў (калі яны яшчэ ёсьць) і прыгледзьцеся да іх кніжак, па якіх яны чытаюць-чмуцяць народ. Бывае—гэтыя кнігі вельмі старадаўнія. Загляньце ў панскія маёнткі, — там гэтак сама шмат ёсьць старадаўняга, яшчэ нават з беларускім характарам. Цікавыя бываюць партрэты, статуі, скуры і інш. Ваша цікавае вока павінна ўсюды кінуць зірк і калі знойдзена, па вашай думцы, нешта маючае гістарычную, этнографічную, альбо мастацкую вартасьць—напішэце ў Беларускі Музэй. Ён, як няма лепей, зьверне на гэта ўвагу, вышле сваіх працаўнікоў на месцы й вам назаўсёды застанецца ўдзячан. Ваша імя будзе ўпісана ў Музэі, як чалавека, палажыўшага цэгліну для фундаманту аграмаднага культурнага гмаху Беларускага Музэю Прошласьці.

Інтэлігэнты, любячыя сваю Беларусь, яе прошласьць, жадаючыя даць будучыне шчасьце бачыць перад сабой наша мінулае гэтае старонкі, — зьвяртайце на ўсе старажытныя рэчы ўвагу і давайце аб гэтым знаць Музэю.

## Курс на грошы.

**Варшава 14 жніўня.**

(Офіцыяльна).

| | |
|---|---|
| Даляры | 245.000 |
| Нямецкая марка | 0,8 |
| Фунты штэрл. | 1.205.000 |
| Франкі франц. | 13.700 |
| Франкі бэльгійск. | — |
| 10 руб. золатам | — |



## Сэкрэтарыяты Беларускага Пасольскага Клюбу.

1) **Вільня**, Віленская вул. 12, кв. 6.
2) **Ліда**, I I Слабодка 8.
3) **м. Глыбокае**, Дзісьненскага пав. вул. Сенкевіча 46.
4) **Жодзішкі**, Сьвянцянскага павету кс. Годлеўскі.
5) **Наваградак**, Вялікі Рынак 14.
6) **Нясьвіж**, Альбянская 28.
7) **Столбцы**, Шпітальная 22.
8) **Горадна**, Мастовая 9.
9) **Бельск**, Замкавая вул. 3, кв. 1
10) **м. Саколка**, Горадзенская вул. 34.
11) **м. Кляшчэлі**, Бельскага павету.
12) **м. Крынкі**, Горадзен. павету, Горадзенская вул. 34.
13) **Пружаны**, Вуліца кс. Буткевіча, 16.
14) **Беласток**, Нова-Варшаўская вул. № 83.

Беларускі Пасольскі Клюб, Варшава, Вейская вул. Сойм.



Выдавец Л. Рыдлеўскі.



Друкарня Левін і Сын, Вільня, Нямецкая 22.